Цана асобнаго № 40 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

**Умовы падпіскі:**
На год...... 12р.
На поўгода.... 7р.
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Вольная Беларусь!



№ 8. 1918 г. 10-го (25) сакавіка 1918 г. № 8.

## Што будзе?

Што будзе с табою, убогі народзе.
Дзе схована лепшая доля твая?
Дзе думка аб волі, зямліцы ды згодзе,—
Ці ж зноў твая праца—на зыск гультая?
Без жалю, без сэрца, у няволі вялікай,
Цябе усе, хто хоча, цягаюць, скубуць,
А ты нібы хворы, як сонны, як дзікі,
Ні можаш прачнуцца, ні хочаш зірнуць.
Уставай жа, люд мілы! Жыві, бараніся
Ад жаху згіноты, ад вечнай нуды.
Цяпер хоць абапал сябе азірніся,
Ратуйся, як можаш, ад велькай бяды!
Ты дось надрэмаўся у часіну апекі...
Дык глянь жа—льос новы чэкае цябе.
Ці ж ты, скамянелы, забіты, калека?
Шукай свайго права ні ў сьне- -ў барацьбе.
I сонцо зазьяе; разойдуцца хмары,
Як знойдзеш ты долю сваю.
I згінуць зладзействы, разбоі, пажары
На ўсім Беларускім краю.
I зноў засьпеваюць дзеўчата у полі;
Над нівою жоўтай зазвоняць сярпы...
Скажы ж, мой народзе: «*Мне гора да волі,*
«*Зрабіўся я вольным, я ужо ні сьляпы!..*»
Каб нашы суседзі цябе шанавалі,
Каб льос твой зьмяніўся навек,
Каб добрыя людзі цябе пазнавалі,
Як тога, што скінуў пакуту ды зьдзек.
Калі ж гэта ўбачу зарніцу на ўсходзе,
I вольнаго ў вёсцы знайду ратая?
Што будзе с табою, убогі народзе,
Дзе схована лепшая доля твая?..

Мінск 27/11—1918 р. **Макар.**

## Плач Волі.

Над крываваю зямлею
Хтось нішчасны шчасьця просіць.
Над крываваю зямлею
Воля плача і галосіць:
«Эх, вы людзі, эх, вы людзі,
«Што са мною вы зрабілі?
«Эх, вы людзі, эх, вы людзі,—
«Волю вы сваю згубілі!»
I ляціць на усе дарогі,
Сьляпых лірнікау спаткае.
«Ой, чаму, чаму пад ногі
«Мяне кінулі?—пытае.
«Абліваючысь сьлезамі,
«Абліваючысь крывею,
«Я ішла-ішла за вамі
«Прамяністаю сьцязею,
«Я ішла на вашы згукі,
«Я ішла на вашы клікі,
«Я ішла на вашы мукі,—
« Шлях быу цяжкі і вялікі.»
Воля сьлезы разлівае.
Сыпе жвір на русы-косы.
I жалобу надзевае,
Горка, жаласна галосе:
«Палячу я у шчыр-боры,
«Дзе гудзяць матулі-сосны.
«Там над імі граюць зоры
«I у зімы і у весны.
«Палячу на бурны рэкі,
«Што цякуць у даль на волі.
«Там на лузі чалавека,
«Ні убачу я ніколі.
«Палячу у стэпы дзікі,
«Дзе цьвітуць на волі кветкі,
«Там нясуцца птушак зыкі
«Пад нябесныя паветкі.»
Воля падае ад болі
I цалуе жвір-каменні.
«Спадзевалася я боляй
«Ад людзкога пакалення.
«Нібы камень, іхні сэрцы,
«Іхні душы цемны-мутны,
«У прарокау іх,—паверце,—
«Шчыр-жаданні ні магутны...»
Над крываваю зямлею
Хтось нішчасны шчасьця просіць.
Над крываваю зямлею
Воля плача і галосіць.

Мінск 30/XII—1917 г. **Ясакар.**

## Мір і Беларусь.

У нядзелю, 3-го (18) сакавіка, у Берэсьці падпісаны міравы трактат паміж цэнтральнымі дзяржавамі і Вялікаросіей. Такім чынам, большэвіцкі вялікарускі урад прымушан быу згадзіцца на тыя варункі міру, якія былі запрапанованы гэрманцамі. Формула—ні міру, ні вайны—ні збавіла ад ганебнаго міру. Мала таго, скарыушыся перад пераможцам, большэвікі абавязаліся нібауна памірыцца з Украінскаю Народнаю Рэспублікай і вывесьці сваё войско і чырвоную гвардзію з Украіны і Фіпляндзіі. Ратавaушыя цэлы сьвет, самі сябе выратаваць ні спрамагліся.

На моцы надпісанаго трактату, Расія страціла усе тыя ні вялікарускія землі, якія былі прылучаны мячом і дыпльоматыяй да даунейшаго Маскоускаго княства. Страчана Арменія, адпала ад Расіі Фінляндзія, землі Надбалтыцкія, Украіна, Польшча, Літва і заходняя часьць Беларусі. Усходняя Беларусь, акупованая пры апошнюм наступленню,—як Міншчына, палова Магілеушчыны і Віцебшчыны, паводлуг варункау міру, фармальна застаюцца пры Вялікаросіі, а фактычна яны будуць заняты нямецкім войскам да тых пор, покі ні утворыцца агульна-эуропейскі мір, або ні скончыцца расійская дэмобілізацыя. Абшары, забраныя немцамі да апошняго наступлення і быушыя колісь пад уладаю Расіі, больш да Расіі належыць ні будуць, і Расія ні мае права умешывацца да унутраных спрау тых мяйсцовасьцяу.

Такім чынам, ад быушай дзяржавы Расійскай засталася толькі Вялікаросія,—быушае княжаство Маскоускае, або Масковія. Цяпер Вялікаросія, як і дауней, зусім адсунута ад З.-Эуропы і зноу апынулася на пагранічча з Азіей. З утратаю Надбалтыцкіх провінцый, зачынілося акно у Эуропу, прарубленое Петрам Вялікім, і згінула праца цароу маскоускіх. А калі дадаць сюды аднауленне гандлеваго трактату 1904 г. з зьменамі на карысьць Гэрманіі, то трэба сказаць, што Вялікаросія пастаулена у нізьмерна цяжкае эканамічнае становішчо. I трудна сказаць, дзе канец тым нішчасьцям, якія валяцца з усіх бакоу на быушую дзяржаву Расійскую. калі узяць яшчэ на увагу пасуванне японцау у Сібіры...

Цяжкае становішчо і нашай староньки, Беларусі. На міравыя перагаворы беларусау ні пусьцілі. Імя Беларусі ні разу ні успаміналося у Берэсьці, калі абмінуць увагу фон-Гофмана аб разгоні „усебеларускаго конгрэсу». Умовы паміж Вялікаросіей і цэнтральнымі панствамі ясна гаворыць, што заходняя часьць Беларусі,—Віленшчына, Гродзеншчына і частка Міншчыны —адарваны на заусюды, і льос іх маюць устанавіць гэрманцы у паразуменні з насяленням. Заходняя часьць Беларусі акупована нямецкімі войскамі, і гэрманцы гатовы ачысьціць яе ад свайго войска посьля агульна-эуропейскаго міру і аддаць яе Вялікаросіі ужо, мабыць, без усякаго паразумення з насяленнем. I вось так Беларусь падзеляна на дзьве часткі с тым, каб заходняя часьць яе заставалася у залозі да утварэння агульна-

яна нідоуга. Цераз дзьве нядзелі аддала Богу душу.

Малога Алеся узяла к сабе яго цетка. Гледзячы на хлопца, яна плакала і прычытывала:

— «Ой, дзіцятко мае! Сірата бездольная. Астауся адзін нішчасны. Як жа ты, маленькі, жыць будзеш без іх? Хто знае, якая цібе доля спаткае? Можа і табе прыдзецца, як бацьку тваймy, бадзяцца па сьвеці, покуль ні знойдзеш долі свае».

Алесь, апусьціушы галаву, стаяу, глядзеу у зямлю і раняу сьлезкі.

С. Мікалаушчына. 1917 г.

Антось Галіна.

# Сымон Музыка.

**(Казка жыцця).**

**Часьць трэцця.**

V.

Час быў ранні. Вёскі спалі,
Ні трубіў у рог пастух,
І дарогі спачывалі,—
Ціха усё было вакруг.
Ад карчмы на шлях ценькамі
Хтось-то сунуўся, як здань,
С палкай, с клункам за плячамі,
Ні уважаючы на рань.
Шоў ён борзда, азіраўся
У бок стадолы і карчмы,
Бы за ім адтуль хто гнаўся
І згубіў яго срэдзь цьмы.
На шляху ён прыпыніўся,
Паразважыў, пастаяў,
Потым ён перахрысьціўся,
Вольным шляхам падыбаў.
У палёх дрэмалі ніві,
Нікнуў у небі зорак пас,
Вот заціўкалі шчасьліва
Пташкі-жаваронкі ураз
І віталі рань сьвятую,
І туман з лагоў уставаў,
І карону залатую
Усход за лесам узьдзеваў.
Адзінокі падарожны
Усё дыбаў і усё дыбаў.
Даль палёў і сьвет разложны
Ціхім усьмехам вітаў.
І быў ён худы і слабы,
Бледнасьць хворасьці ў твары,
І скрозь рвань сьвяціліся драбы,
Кашляў, бедны, як стары.
Толькі вочы больш гарэлі,
Глыбей у лоб вайшлі яны,
А з-за плеч на сьвет глядзелі
С клунка кончыкі струны...
Шыр палёў, цяпло і воля
Адагрэлі яго зноў,
І сьціхалі яго болі,
Аджывала ў сэрцы кроў...
Толькі ж ногі штось замлелі,
Слабасьць нейкую пачуў
І у руках і на усім целі!
І сон хлопца агарнуў,
Ён з дарогі зварачае
І на сонцы пад кустом
Прысядае, спачывае,
Потым крэпка засынае
Распрасьцёршыся пластом.
Доўга спаў ён, як забіты.
Сонцо стало на поудні,
І гулі пад іх сярдзіта
Дзеці лесу, авадні.
— Устань, любы!— казало сонцо
— Абудзісь!—шумеў дубок.
І скрозь травак валаконцо
У твар павеяў вецярок.
— А-а!— Сымонка пацягнуўся.
Голаў сонную узьняў
І ні зразу схамянуўся,
Як, чаго сюды папаў.
— Дзе ж то я і што са мною?—
І прыпомнілось яму,
Як сквітаўся ён с карчмою,
Як уцёк ён і чаму...
Але што то? здань ці дзіво?
Ці вачэй абмылка, зман?
Бы хтось глянуў ды так хціва,
Так прыгожэ і шчасьліва,
Бы душы і сэрца пан?
Штось то блізкае пачулось,
Што? ні выявіць ніяк.
Узвалновало, адгукнулось,
Палажыло у сэрцы знак.
Растрывожыло успаміны,
Што сакрамантам былі
Сэрца беднаго хлапчыны
І ва усякія часіны
Там іскрыліся і ньвялі,
«Гэта сон міне усьпешыў»,
Сумна хлопчык парашыў,
І уздыхнуў, галоўку зьвесіў,
Голас сэрца заглушыў...
— Гэ!— махнуў Сымон рукою,
Каб аб тым і ні гадаць,
—Ні з маёю доляй злою
У сэрцы мары гадаваць!—
Сеў і с клунка ён выймае
Рыбу, хлеб, кладзе на дол;
Ніхай Шлёма выбачае:
Шабасовы гэта стол.
Толькі ж сьнедаць чуць прыбраўся,
Чуе—голас хтось падаў.
Больш Сымонка закапаўся—
Ясна—з ім хтось жартаваў.
Хлопчык ускочыў, азірнуўся,
Галавой абвеў вакруг,
Бачыць—куст узварухнуўся,
І адтуль, як сьветлы дух,
Твар прыгожы выглядае;
Здзаваленне, сьмех на ім,
І Сымонку абвевае
Чымся мілым, дарагім.
— Ганна!—вырвалось у Сымона,
І назад ён крок ступіў
І стаіць, глядзіць зьдзіулёна,
Рукі сьмешна апусьціў.
— Ай, Сымон! які дзіўны ты!—
Ганна сьмехам залілась,
І галоўка самавіта
Над травою узьнялась.
І бліскалі яе вочкі,
Як у жыці васількі
Слоўкі—срэбраны званочкі,
Шчочкі—макавы лісткі.
— Дзе спаткаліcь мы...Сымонка!
Як жа ты сюды папаў?..
А як зыгнуў ад нас гонка—
Слыху, почуту ні даў.—
Ганна борзда гаварыла,
Распытоўвала сябра,
Нават трошкі пажурыла,
Што адрокся іх двара.
— Я суніцы тут зьбірала,
Зірк—аж бачу, хтось ляжыць;
Я спужалась, страшна стало—
Мо' разбойнік які сьпіць.
Ды узяла міне цікавасьць,
Я падкралася бліжэй—
Гэта ж ты, й такая млявасьць
Ад істоты усей тваей!
І мне шкода цібе стало!
Ні пасьмела я будзіць
І гадзіны дзьве чакала,
«Ніхай, думаю, пасьпіць.»
Ці здароў жа? як жывецца?
І куды ідзеш, зачым?..
Сядзьма тут!—Яна сьмяецца
І садзіцца разам з ім.
— Ганна!.. Божачка Ты мілы,
Як я рады—ні сказаць!
Я пачуўся—нібы крылы
Ты прынесла мне лятаць!..
Ты ні ведаеш, Ганулся:
Цяжкі выдаўся мне год.
Успомню—увесь закалачуся,
Сілы ідуць мае на звод.
Я быў хворы—ні пад сілу
Для міне была карчма.
Жыд з мяне выцягваў жылы,
Мае жыцце было—цьма.
Я адзін быў сам сабою.
Хоць вертаўся між людзей:
Толькі у думках жыў табою,
Вашай добраю сям'ею
Мілай казкаю маей.
А цяпер іду... усё роўна,
Толькі б кінуць мой барлог,
Толькі б с скрыпкай жыць любоўна,
Толькі б вольна жыць я мог...
— Ты зьбіраўся сілкавацца,
На міне ты ні зважай.
Еш, Сымонка, што сьціскацца?
Направуляйся і дужай.
А то хочаш? будзем разам
У лесі полудзень спраўляць.
Там збаночак мой, пад вязам,
Дзе і сыр, бліцэ ляжаць.—
У цяньку старога вязу
Селі, сьнедаюць яны,
І іх сэрцы згоды, сьпеву
Ціхай радасьці паўны;
Ні змаукае іх гаворка.
Расказаў Сымон аб тым,
Як яму жылося горка,
Хто быў Шлёма і Яхім:
Як жыдэ шабас спраўляюць,
Што у іх есьць чорт—каршун
І што іх—так людзі баюць—
У страшну ноч бярэ хапун.
Потым сьціх Сымон панура,
І на твар яго зьлёг сум,
Бы у сэрцо турба-хмура
Нацягнула чорных дум.
Ганна голаў нахіліла,
Разважала і яна,
Бы у адзін іх сум акрыла
Поўдня тая цішына.
— Што ж мы змоўклі?.. Эх, Ганулся!
Як падумаю, што зноў
У сьвет адзін павалакуся,—
Проста у сэрцы стыне кроў.
Я нідаўна быў шчасьлівы,
Ні гадалось ні аб чым,
Ні палохаў сьвет жахлівы,
Як бы я й ні жыў у ім.
І у той міг перад сабою
Толькі меў цябе адну,
Сэрцо поўнілось табою,
Бы сваю знайшло вясну
У сьвеці гора і блукання,
Толькі ж ёсьць канец усяму,
Наша скончыцца спатканне,
І мой дзень у тугу зьмеркання
Зноў апусьціцца, як у цьму.
Мы разыйдземось. Дарогі
Нашы розна пабягуць,
Паміж намі есьць парогі,
І нам іх ні абмінуць.
Мы, Ганулся,—каліны,
Адной скрыпкі дзьве струны.
Іх аднакі скрозь пуціны,
Ды ні сходзяцца яны.
У прыгодах ёсьць дзьве меры:
Усьміхнецца шчасьце мне,
Я ужо мысьлю, поўны веры,—
Шчасьце пройдзе, патане.
І ад таго пачування
Сэрцо болем зашчыміць,
І ад шчасьця того, Ганя,
Толькі цень яго стаіць.
А у нягодах разважаю:

Сталі чакаць і дачакаліся. Прышоў большэвізм і запанавалі на Беларусі т. званыя «народные комисары Зап. Области.» Настаў час сапраўднаго уладарства маскоўскай дэмакратыі. Заварушылася і Беларусь. Сабраўся першы усебеларускі зьезд. А велікаруская дэмакратыя праз сваіх кіраўнічых стала дапамагаць беларускаму нацыянальнаму вызваленню такім абычаем: «Телеграмма. Западофронтъ, Полукорову Сообщите товарищамъ, чтобы на съѣздѣ бѣлоруссовъ Рады они произвели переворотъ умовъ, расколъ и выяснили буржуазность ея. Это требуется. Главкозапъ Мясниковъ.

Гэта—спрыянне беларускаму адраджэнню. а вот дапамога: «Комиссаріятъ Внутренныхъ Дѣлъ Западной Области. 17-го декабря 1917 г.. № 1425. Товарищу Резаусскому. Предписывается, имѣя въ своемъ распоряженіи достаточно вооруженную силу, оцѣпить зданіе. гдѣ происходитъ засѣданіе Бѣлорусскаго Съѣзда, арестовать президіумъ Съѣзда, а равно избранный имъ органъ краевой власти; отозвать со Съѣзда т. т. большевиковъ и стоящихъ на точкѣ зрѣнія Совѣтской власти, а самый Съѣздъ объявить распущеннымъ. Комиссаръ К. Ландеръ. Секретарь (подпіс нічытэльна напісаны).

Вось гэтакія і шмат іншых, ні меньш цікавых «памятак для беларусаў маскоўскай прыхільнасьці» было знайдзено у паперах «народных камісараў» посьля таго, як яны паўцекалі з Мінску перад прыходам немцаў.

Гэта трэба запамятаць і заўсюды трымаць на увазі прыказку слаўных нашых продкаў: «З маскалём дружы, а камень за пазухай дзяржы.»

**Я. Л—н.**

## Што робіцца у Мінску?

Вось ужо другі тыдзень Мінск жыве асобным жыццём, ні маючы ні тэлеграфных, ні пачтовых зносін з другімі гарадамі. Нідаўна, праз нямецкую ваенна-палёвую почту, пачалі адтрымлівацца нямецкія газэты, у том ліку і газэты з Вільні. Прыходзіць беларуская газэта «Гоман». Газэта выходзіць двойчы на тыдзень,—кірыліцай і лацінкай.

Мінскія штодзенныя газэты друкуюць ужо тэлеграмы нямецкаго генэральнаго штабу.

Весткі з Расіі, якія адтрымоываліся дагэтуль выпадкова і акольнай дарогаю, былі вельмі ніпэўныя.

У Мінск прыбыў з Вільні генэрал-губэрнатар фон-Пільтц, да якога належыць упарадкаванне грамадзянскай улады на Міншчыні. Ен прыняў цэлы рад дэлегацыяў ад розных інстытуцый і арганізацый.

У Мінску пачаў сваю чыннасьць гэрманскі ваенна-палявы суд.

4 сакавіка г.г., с прычыны замірэння з Расіяй, у мейсцовых царквах і касьцелах адбыліся падзячныя набажэнствы.

Вышлі у сьвет новыя газэты у расійскай мові: «Бѣлорусская Земля» і «Минская Мысль».

Апошнімі днямі у Мінску паявілося шмат хлеба і мяса. Разам с тым цана на хлеб паменшала,—замест 1 р. 50 к. —1 р., а то і 90-80 кап. за фунт. Другія прадукты трымаюцца у даўнейшай цане.

У Мінску пастаноулено склікаць зьезд гарадзкіх і земскіх самаураваў Мінскай губ.. Зьезд мае разгледзіць шмат важных спраў, а у першую чаргу—харчавую і фінансовую у зьвязку з новымі варункамі жыцця. Пры гарадзкой управі заложано арганізацыйнае бюро аправанвя тэхнічных варункаў склікання зьезду. арганізацыі справядліваго прэдстаўніцтва і г. д..

Беларускі Народны Сэкрэтарыят, які да гэтаго часу ні мае свайго памешкання, часова камешчаецца у памешканню В. К. І-го Усебеларускаго Зьезду [Паліцэйская, 2-6].

«Т-во Беларускае Культуры» закладае у будынку «Беларускай Хаты» [Конны рынак, быўшы «амэрыканскі барак»] бібліатэку-чытальню. Там жа мае у хуткім часі пачаць свае прэдстаўленні Беларускі Нацыянальны Тэатр.

Беларускі каопэратыў «Залатагорская Хаўрусная Крама» перанесена на Залатагорскую вуліцу. Каопэратыў гэты ідзе вельмі добра. Нідаўнымі часамі адтрымаў мануфактуру і галёшы, якія за нідарагія цэны прадаваліся сябруком к-ву.

«Залатагорская Хаўрусная Крама» мае на мэці адкрыць нідарагую сталоўку-чайную на каопэратыўных умовах.

## „Гоман“

Посьля трохгадовай разлукі, мы адтрымалі першую пэўную вестку ад родных братоў нашых з Віленшчыны. У рэдакцыю «Вольнае Беларусі» прынесьлі Віленскую беларускую газэту «Гоман» за 5 марца 1918 году—і праўдзівы радасны «гоман» падняўся у нас. Газэта перадаецца з рук у рукі, як нешта сьвятое... Цікавяцца кожнай драбніцай мілаго госьця... Чытаеш кроніку, чытаеш стацці, чытаеш паміж строк і... зусім ні чытаеш, бо радасьць перашкаджае спакойнаму чытанню. І колькі гаворыць душы знаёмая вуліца, знаёмы куток, гдзе разам шмат гадоў калісьці працавалі. Колькі успамінаў...

У артыкулах гаворыцца аб «польскіх апэтытах на Беларускую зямлю» (усё, як у нас). Але адважна нясецца «гоман» праўды нашых віленскіх братоў па усіх лугах пушчах і вёсках пакутнай маці-Беларусі. Беларус сам гаспадар сваёй зямлі!

**Б.**

## Беларускі тэатр.

**«Міхалка», камэдыя на І дзею.**

«Беларуская Хатка», што месьцілася раней на Захараўск. перавул. д. № 6, рэарганізована ціпер у культурна-прасьветны клюб пад найменнем «Беларуская Хата» і месьціцца на Коннай плошчы у будынку, перайшоўшым да «Т-ва Беларускай Культуры» ад «Хрысьціянскаго Саюза Маладых Людзей», заложанаго амэрыканцамі.

3-го (18) сакавіка адбыўся там першы беларускі спэктакль. Была настаўлена камэдыя на 1 дзею «Міхалка.» Спэктакль ставіла «Беларуская Вучнеўская Грамада.» Гралі вучні,—гімназісты, рэалісты, сэмінарысты і гімназісткі. Спэктакль вышаў натта добра, як для вучняў. Шкодзіло толькі тое, што артысты—аматоры кепска ведалі свае ролі, а іншыя з іх натта кепска акцэнтавалі беларускую мову і дадавалі шмат русіцызмаў.

Вучням трэ' уважней адносіцца да роднай мовы. Трэба чытаць беларускую літэратуру, вучыць вершы, а, глаўнае, пастаянна гаварыць па-беларуску у прыватным жыццю. Бывало у чэхаў істнавало правіло, паводлуг катораго кожны чэх, дзе-б ён ні апынуўся і с кім бы ні меў размову, павінен быў спачатку зьвяртацца па-чэшску, і толькі тагды, калі яго ні разумелі і калі ніразуменне гэтае шкодзіло яго інтарэсу, толькі—тагды ен мог гаварыць іначай.

Шануйце родную мову!

**Ю. В.**

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.